*Хворае пакаленне. Стан здароўя дзяцей выклікае надзвычайную трывогу спецыялістаў (стар. 2) Нясвіж: свята добрае, ды не тое (стар. 2)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты СВАБОДА
Наклад 32.130
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул. Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Серада, 10 верасня 1997 г. № 100 Кошт свабодны

**Перамовы адкладваюцца:**

## Антановіч не ўмее гаварыць з галандцамі

**На няпэўны тэрмін адкладваюцца трохбаковыя кансультацыі з удзелам прадстаўнікоў Вярхоўнага Савета 13 склікання і прэзідэнцкай адміністрацыі пры пасрэдніцтве Савета Еўропы. Як вядома, чарговы раўнд павінен быў пачацца ўчора, 9 верасня.**

Як заявіў на прэс-канферэнцыі міністр замежных справаў Іван Антановіч, які фармальна ўзначальвае на кансультацыях прэзідэнцкі бок, — ён, маўляў, не змог своечасова звязацца з кіраўніком місіі Еўрасаюза Аадам Костам, *«каб узгадніць далейшы фармат перамоваў»*.

Кіраўнік знешнепалітычнага ведамства Беларусі сказаў, што не адчувае *«пэўнасці пазіцый па далейшым ходзе перамоваў»* у сувязі *«з пераменай старшынства ў Еўрапейскім саюзе»*. І.Антановіч паведаміў, што накіраваў ліст цяперашняму старшыні ЕС — міністру замежных справаў Люксембурга, — у якім *«ставіць шэраг пытанняў, адказы на якія не змог атрымаць ад спадара Ары Коста»*.

*БелаПАН*



*Генадзь Карпенка заўсёды находзіў паразуменне з Аадам Костам — нават па тэлефоне. Чаго ж не разумее Антановіч?*

## Шчукін ужо апрануўся за краты, а суд не даў рады прыняць рашэнне



*Шчукіна ў вышыванай кашулі, як на гэтым здымку, ведаюць многія. Нядаўна ён пачаў насіць арыштанцкую робу —але міліцыянты-сведкі не захацелі паглядзець на гэта ў судзе.*

**У паласатай арыштанцкай робе з'явіўся ўчора ў суд Ленінскага раёна Мінска дэпутат і журналіст Валерый Шчукін.**

Яму інкрымінуюць удзел у «несанкцыянаваным шэсці» журналістаў у абарону здымачнай групы Паўла Шарамета 4 жніўня. Нагадаем, што ў той дзень каля «прэзідэнцыі» міліцыя арыштавала 15 журналістаў незалежных СМІ, якія патрабавалі вызваліць з гродзенскай турмы Паўла Шарамета, Дзмітрыя Завадскага і Яраслава Аўчыннікава. Чатырнаццаць калегаў В.Шчукіна ўжо атрымалі ў судзе штрафы ў 3 і 5 мільёнаў або папярэджанні, а справа Валерыя Шчукіна была адкладзеная, бо на прыцягненне яго да адказнасці спатрэбілася санкцыя генеральнага пракурора. І вось праз месяц Шчукіну ўручылі павестку з'явіцца 9 верасня да суддзі Таццяны Жалкоўскай.

Свой паход у суд Шчукін вырашыў зрабіць у форме перфоманса. У 9:20 раніцы журналіст рушыў з вуліцы Пуліхава ў накірунку суда, які знаходзіцца на вуліцы Кірава. Некаторыя прахожыя пазнавалі барадатага апазіцыянера ў арыштанцкім адзенні і жэстамі ды словамі выказвалі яму сваю падтрымку. Міліцыя не перашкаджала «арыштанту» рухацца, і ён паспяхова дасягнуў сваёй мэты.

Аднак у судзе Шчукіна чакала расчараванне: суддзя перанесла слуханне справы на 17 верасня ў сувязі з няяўкай сведак-міліцыянтаў.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Ціцянкоў пабагацеў яшчэ на адну канапу

**Судовыя выканаўцы ў чарговы раз арыштавалі хатнюю маёмасць экс-дэпутата Вярхоўнага Савета Сяргея Антончыка.**

Уварваўшыся ў кватэру, яны «зафіксавалі» канапу і два крэслы. Мэбля аказалася не новай, судовыя выканаўцы ацанілі яе ў 500 тысяч беларускіх рублёў. Гэтая сума праз некалькі дзён паступіць у кішэню прэзідэнцкага «заўхоза» Івана Ціцянкова. Паляванне на хатнюю маёмасць беспрацоўнага С.Антончыка будзе працягвацца.

Паводле рашэння суда агульная сума, якую былы парламентарый павінен выплаціць кіраўніку справамі лукашэнкаўскай адміністрацыі, складае 200 мільёнаў рублёў.

Пачалася гэтая гісторыя яшчэ два гады таму, калі дэпутат Сяргей Антончык выступіў на сесіі Вярхоўнага Савета з дакладам аб карупцыі ў камандзе прэзідэнта. Ціцянкоў, які ўзгадваўся ў гэтым дакуменце як галоўны лукашэнкаўскі карупцыянер, падаў на Антончыка ў суд. Справа была вырашаная на карысць «заўхоза», маральныя страты якога суд ацаніў на 200 мільёнаў. Сам Ціцянкоў пасля тлумачыў у тэлевізійным інтэрв'ю, што грашовы эквівалент маральнага ўрону ён вызначаў паводле «навучных» нормаў і табліц.



*Сяргей Антончык (злева) і Іван Ціцянкоў у зале суда.*
*(Здымак з архіва).*

Судовыя выканаўцы адразу ж узяліся збіраць грошы для Ціцянкова. Вясной мінулага года яны апісалі ў кватэры Антончыка канапу на 500 тысяч рублёў у тых цэнах і кухонны гарнітур на 1 мільён рублёў. Цяпер, напярэдадні «гарачай» восені, яны наведаліся зноў. Для барацьбы з апазіцыяй выкарыстоўваецца нават годнасць Ціцянкова, пра якую судовыя чыноўнікі не згадвалі паўтара года.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Замест Мінгарвыканкама аштрафавалі лідэра Грамады

Старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Мікалай Статкевіч аштрафаваны на 30 мільёнаў рублёў за арганізацыю і правядзенне шэсця ў Дзень Незалежнасці — 27 ліпеня. Такім чынам, па памеры штрафу Статкевіч — абсалютны лідэр сярод апазіцыянераў, пакараных за вулічныя акцыі ў гэтым годзе.

Суддзя А.Крапіўка з суда Савецкага раёна г.Мінска, якая «ўляпіла» Статкевічу гэты астранамічны штраф, магчыма, нават ганарыцца сваёй міласэрнасцю. Маўляў, Статкевіч мог аказацца і за кратамі, бо ў яго ўжо было дастаткова адміністратыўных парушэнняў, каб згодна з крымінальным кодэксам, пакараць турэмным зняволеннем. Але «пашанцавала» — абышоўся грашовымі стратамі.

Між тым, і гэтае пакаранне сам Мікола Статкевіч лічыць цалкам «прыцягнутым за вушы» і з юрыдычнага пункту гледжання абсурдным. Нагадаем, што лідэра БСДП асудзілі за тое, што сваточнае шэсце 27 ліпеня пад яго ным кіраўніцтвам прайшло не па тратуарах, а па праезнай частцы вуліц. Пры гэтым Статкевіч спасылаўся на рашэнне гарвыканкама ад 21 ліпеня, паводле якога быў атрыманы дазвол на праход калоны па цэнтральнай пласе дарогі.



*Падпалкоўнік Мікалай Статкевіч заўсёды ведае, што робіць.*

Праўда, гэтае рашэнне ўжо праз два дні было замененае на іншае — калоне дазвалялася ісці ўжо толькі па тратуарах. Пры гэтым быў парушаны прэзідэнцкі дэкрэт № 5, згодна з якім рашэнне аб дазволе ці забароне акцыі трэба прыняць за пяць дзён да дня яе правядзення. Цікава, што суддзя А.Крапіўка прызнала той факт, што не лідэр БСДП, а Мінскі гарвыканкам парушыў прэзідэнцкі дэкрэт № 5, але, заявіўшы: *«Рашэнне гарвыканкама трэба было выконваць у любым выпадку»*, — пакарала штрафам менавіта М.Статкевіча.

Дарэчы, віцэ-мэр Мінска Віктар Чыкін, які выклікаўся ў суд у якасці сведкі, на паседжанне не з'явіўся. Суддзі паведамілі, што сведка хворы, і гэтая інфармацыя яе цалкам задаволіла. Між тым, днём раней В.Чыкіна бачылі ў службовай машыне: ённазіраў свята вайсковай славы, якое ладзіла на плошчы Парыжскай камуны апазіцыя. Хутчэй за ўсё, рабіў ён гэта, перамагаючы хваробу, як і належыць бальшавіку.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Жыць стала даражэй

*З 1 верасня кватплата павялічылася на 20 працэнтаў*

Паводле папярэдніх разлікаў міністэрства жыллёвай і камунальнай гаспадаркі, стандартная аднапакаёвая кватэра (жылая плошча 20 кв.м, 2 чалавекі) у ацяпляльны перыяд каштуе 280 тысяч рублёў, а ў летні 180 тыс. руб. Двухпакаёўка (30 кв.м, 3 чалавекі) адпаведна 400 тыс. руб. і 260 тыс. руб. За трохпакаёвую кватэру (40 кв.м, 4 чалавекі) давядзецца плаціць 550 тысяч руб. у ацяпляльны сезон і 340 тыс. руб. у летні.

Кватплата вырасла ў сувязі з тым, што ў 1,2 раза павялічыўся кошт камунальных паслугаў, а ў 1,4 раза падаражаў газ. Тарыфы на электраэнергію пакуль не змяніліся, хаця такія прапановы ўжо паступілі ва ўрад. Застаецца ранейшай і плата за тэлефон. Аднак, як сказалі ў аб'яднанні «Белтэлекам», абаненцкая плата за тэлефон да канца года можа павялічыцца на 10—20 працэнтаў.

Як вядома, згодна з прэзідэнцкім указам, льготы па аплаце кватплаты адабралі ў чарнобыльцаў-ліквідатараў, а таксама ветэранаў працы і ўзброеных сілаў.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Выбух на спіртзаводзе

**Ад выбуху на спіртзаводзе ў пасёлку Пціч Глускага раёна Магілёўскай вобласці загінулі два чалавекі.**

Гэта адбылося ўночы 7 верасня. Не вытрымаў перагрузкі кацёл у кацельнай спіртавога прадпрыемства, якое належыць эксперыментальнай базе «Глуск». Па дадзеных мясцовай міліцыі, выбух быў даволі моцны: выбуховай хваляй выбіла дзверы, вокны і паваліла цагляную сцяну памерам шэсць на тры метры. Пры такім выбуху шанцаў уратавацца для тых, хто знаходзіўся ў памяшканні, практычна не было. Загінулі 26-гадовы апаратар кацельні і яго ная госця 1959 года нараджэння.

**А.Г.**

## СЁННЯ — АПОШНІ ДЗЕНЬ ПАДПІСКІ НА IV КВАРТАЛ

**у кожным аддзяленні пошты і Белсаюздруку**

**Шаноўны чытач!**

**Падпішыся на газету СВАБОДА — такім чынам ты не толькі будзеш мець гарантыю атрымання кожнага нумара, але і дапаможаш сваёй газеце фінансава.**

**РАЗАМ МЫ СІЛА**

**Кошт падпіскі на 1 месяц — 25.000 рублёў, на квартал — 75 тысяч рублёў.**

**Падпісны індэкс 63887**

## Статистика:
# Тютелька в тютельку

*До последнего времени единственным экономическим показателем, который не подчинялся Александру Лукашенко, была инфляция. В июле пала и она*

### Дела сезонные

Как известно, по утвержденному президентом прогнозу (!) среднемесячный темп инфляции в нынешнем году не должен превышать 2%, но фактически за январь—июль он составил 5,3% (в июле — 1,4%), что никак не вписывалось в иллюзию процветания экономики. Поэтому, если верить статистике, за три недели августа цены возросли только на 1,4%, что по итогам месяца будет соответствовать требуемой величине.

Когда ответ известен, задачу решать легче, но ведь иного решающего таковой подход может ввести в заблуждение. А некоторых и к элементарной подтасовке. Отрадно, например, что почти на 30% подешевел картофель. Так ведь сезон. А мясо подорожало на 3—6%, «хлебобулки» — от 6 до 10%. Тоже сезон?

Те, у кого есть погреб, картофельно-овощную проблему решают одномоментно и на целый год. А хлеб покупают каждый день, да и мясо хотелось бы иметь регулярно. Не секрет, что для многих это и есть та самая «белорусская мечта», которой их соблазнили нынешние власти. А сами никак не могут справиться с задолженностью по зарплате: к концу августа трудящиеся не получили 500 млрд. рублей, которые им причитаются на вполне законных основаниях. И, как уже догадался читатель, 2/3 этой суммы приходится на сельчан, обеспечивших победу страны в «битве за урожай».

Битва — битвой, но ведь и деньги надо платить. Причем не только колхозам, и не только за горючее, но и самим колхозникам. Ведь сами они платят за все: за дрова, за газ, за пастбище для коровы, за лошадь колхозу и тому же колхозу за бугая, услуги которого регулярно требуются той же корове. Что ни говори, живое существо.

### Особенные чувства

Ну, не знаю. В моей деревне тех веселых и благодарных власти сельских тружеников как-то не наблюдается. Большинству не просто не хватает денег, что привычно, но денег нет вообще — и в принципе непонятно, откуда они могут взяться. Про колхоз все ясно. Там если и есть шанс что-то заработать, то только у механизаторов и животноводов. Все остальные работы — только за то, чтобы получить конягу привезти сено или вспахать сотки. А других работ нет ни в Смолевичах (райцентр моей деревни), ни в недалеком Жодино, ни в Минске. Мужики пожившие еще как-то справляются: кто печи кладет «на дачах», кто бани рубит, кто просто торгует колхозным навозом. А молодые этого и не могут, и не хотят.

Поэтому пенсионерам (а таких если не большинство, то очень много) приходится быть и работодателями, и финансовыми донорами одновременно. Это если «пазычыць» на бутылку под обещание скосить лужок или выбросить навоз из сарая. Вот такая она у нас — эксплуатация наемного труда. И ведь что характерно: новые «батраки» при внешней почтительности к старушкам (вдруг не даст на бутылку) испытывают к ним чувства гораздо более глубокие, чем обычная классовая ненависть. Бывает так, что днем дров наколют и в поленницу сложат, а за ночь — украдут и продадут другой такой же старушке.

Вот такое на переходном периоде достигнуто качество человеческого фактора. А об остальном и говорить не стоит. На 70 дворов приходится 1 первоклассник, что очень худо. Но будет хуже, если эти совершенно пропившиеся граждане и избиратели заведут себе детей. Вот уж тогда точно будет «народ Беларуси». Иные, конечно, могут оскорбиться. Но это мнение разделяют и те, кто еще не совсем опустился, кто изо всех сил цепляется за жизнь.

### Прокураторы статистики

Но вернемся к статистике, которая в своей беспристрастности морализаторству чужда. Она, например, утверждает, что покупательная способность населения против первого полугодия прошлого года выросла, если ее оценивать в основных продтоварах. С этим трудно спорить, но все-таки есть сомнения. Возникают они при виде той «свиноговядины», что лежит на прилавках. От долгих и безуспешных попыток найти покупателя она зачастую приобретает такой антитоварный вид, что сразу хочется стать вегетарианцем.



*Мужики кто как справляются: кому повезет — приторговывают колхозным навозом.*

Статистики свои выводы строят на ценах официальной торговли, у которых с политикой гораздо больше общего, чем с экономикой. Эти цены уже разорили деревню, теперь не дают вздохнуть перерабатывающим предприятиям и торговле. А реальные цены, как это и было в советские времена, — на базаре. И чем скуднее выбор в магазинах, тем они круче. В том числе и на Комаровке, которую курирует сам Лукашенко.

Да что говорить: у нас куда ни посмотришь — везде кураторы. Или прокураторы. Бедные материально — потому злобные, морально преданные — и потому беспощадные. Но это уже не о статистике.

### О новшествах

Что касается статистики, то тут имеются новации. К исходу лета солидарными усилиями российских и белорусских статистиков разработаны формы статотчетности по Союзу Беларуси и России. Надо сказать, что по многим показателям наша страна выглядит если не экономическим локомотивом геополитического новообразования, то безусловным маяком. Правда, некоторое недоразумение вызывает подсчет общего объема производства с последующим определением доли каждой стороны. Не в одной ведь стране живем, да и прискорбно будет увидеть, что в графе, допустим, «улов креветок» за нами числится абсолютный ноль.

**Константин СКУРАТОВИЧ**

*Взгляд из Москвы*

# Тихо! Батька думать будет!

*Москва демонстрирует терпимость накануне обсуждения в Минске законопроектов о таможне*

В сентябре орган, называющий себя парламентом Беларуси, планирует рассмотреть проекты Таможенного кодекса и закона о таможенном тарифе, аналогичные одноименным нормативным актам, действующим в России. Их одобрение может стать началом конца застарелого конфликта между Москвой и Минском по поводу неурегулированности их взаимоотношений в рамках Таможенного союза. Конфликт начался вскоре после создания Таможенного союза двух стран в январе 1995 года, и с тех пор то затухал, то разгорался вновь.



*На снимке: Самый резкий критик белорусского таможенного законодательства Валерий Драганов*

### Предмет спора

Камнем преткновения всегда были расхождения в российском и белорусском таможенных законодательствах. Из-за них российский бюджет только в 1996 году потерял, по оценкам Государственного таможенного комитета РФ, около 5,5 трлн. рублей: целый ряд товаров облагается в Беларуси более низкими пошлинами, чем в России. Поэтому многие участники внешнеэкономической деятельности поддались искушению растаможивать товары в Беларуси, а затем провозить их через неконтролируемую российско-белорусскую границу на территорию РФ и здесь продавать.

Поскольку эти явления были не исключительными, а скорее закономерными, минско-московское направление окрестили Великим контрабандным путем. А российская пресса при моральной и информационной поддержке фискальных органов правительства строго, но справедливо указывала г-ну Лукашенко на недостатки вверенной ему таможни.

### К воротам поворот

Теперь во всей этой борьбе наступает новый этап. Минск, похоже, готов пойти на сотрудничество, хотя различия в законодательствах до недавних пор были в его пользу (так, в 1996 г. белорусский бюджет получил в виде таможенных платежей на 80% больше средств, чем в 1995г.). И поскольку белорусский парламент наметил к рассмотрению необходимые законопроекты, Москва решила приободрить Минск, пообещав: «Вернись, я все прощу».

В роли предвестника мира на прошлой неделе выступил заместитель председателя ГТК России Валерий Драганов, всегда критиковавший несовершенства белорусского таможенного режима. Теперь же г-н Драганов уже говорит о том, что развитие Таможенного союза *«движется в верном направлении»*, об увеличении взаимного товарооборота между двумя странами, о росте поступлений в бюджет от таможен, о том, что братским народам не нужен пограничный шлагбаум, и так далее. А если белорусский парламент примет оба законопроекта, то это будет, по мнению зампреда ГТК, *«большой победой»*.

Жест, сделанный Москвой в сторону Минска, вполне прагматичен в условиях, когда белорусское руководство встает на путь истинный. И Минск, очевидно, также руководствовался вполне прагматичными соображениями, когда собрался вдруг, спустя два с половиной года, выполнять свои обязательства по соглашению о Таможенном союзе.

Дело в том, что в конце прошлого года российские таможенники по сути возобновили контроль на границе между двумя участниками союза: на автомобильных и железнодорожных трассах западного направления были установлены блок-посты. И после этого нелегальный ввоз в Россию растаможенных по белорусским расценкам товаров существенно затруднился. А чем менее привлекательна эта контрабандная схема, тем меньше у Минска причин держаться за свои низкие тарифы. Резоны же для нормализации отношений с Москвой есть. Например, надежда получить деньги из российского бюджета на обустройство таможенных терминалов у внешней границы. Это строительство намечено финансировать на 70% из российской казны, и лишь на 30% — из белорусской.

### Деньги, денежки, деньжата

Между тем, если границу обустроить, здесь можно зарабатывать неплохие деньги. Например, оказывать складские услуги или получать определенный процент от желающих открыть магазины беспошлинной торговли.

Впрочем, ряд проблем у Таможенного союза останется и после принятия белорусским парламентом кодекса и закона о тарифе. Самый острый в настоящее время вопрос — это намерение белорусской стороны ужесточить таможенный режим в отношении российских «челноков».

Минск решил, начиная с 18 августа, требовать у российских граждан, возвращающихся из третьих стран через Беларусь к себе на родину и имеющих при себе пригодные к продаже товары (новую одежду, автомобиль и т.п.), квитанции о внесении залога, гарантирующего уплату пошлины. Если бы оказалось, что такой залог не внесен туристом при выезде, то белорусы собирались взимать его на обратном пути, когда у людей деньги, как правило, на исходе. Между тем российская таможня, на счета которой в конечном счете и должны поступать платежи за ввозимые российскими «челноками» товары, залога не требует. Поэтому непонятно, откуда у возвращающихся на родину россиян могут взяться соответствующие квитанции.

Поскольку такая система при известном волюнтаризме в определении «челнок—нечелнок» сулила российским путешественникам острую головную боль на рубежах якобы братской республики, ГТК РФ попросил белорусских коллег отложить введение нового правила хотя бы до середины сентября. Белорусы пошли навстречу, и теперь, заверяет ГТК РФ, обсуждается компромиссный вариант.

Компромисс заключается в том, чтобы не требовать от «челноков» денег в залог будущих таможенных платежей, а выдавать им учетные карточки, по которым затем осуществлять над ними контроль. По неофициальной же информации, белорусская инициатива может быть вообще спущена на тормозах, и в результате «все останется по-прежнему». Но попрежнему — это как: с таможней между Беларусью и Россией или без?

**Михаил ПЛОТНИКОВ,**
*журнал «Итоги», Москва*

## Страты ад паводкі

**Праліўныя дажджы — не рэдкасць для Лельчыцкага раёна. З зайздросным пастаянствам яны паўтараюцца праз кожныя тры гады, аднак кожны раз стыхія прыходзіць знянацку для жыхароў.**

Толькі нядаўна падлічылі канчатковую лічбу ўрону, нанесенага раёну жнівеньскімі ліўневымі дажджамі і паводкай. Ад стыхіі пацярпелі 648 гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў. Урон, нанесены калгасам і саўгасам, склаў больш за 73 мільярды рублёў.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Два з трох так і не нарадзіліся

**З году ў год на Гомельшчыне памяншаецца колькасць жанчын, якія вырашылі нарадзіць дзіця.**

Калі ў 1985 годзе акушэры прынялі каля 30 тысяч родаў, то летась толькі каля 15 тысяч. У тым жа 1996 годзе ў вобласці зроблена 28 тысяч абортаў, з якіх немалая доля прыпадае на непаўналетніх.

Аналіз дзіцячай смяротнасці паказвае, што 50 працэнтаў немаўлят памірае менавіта ў тых маці, якім 17—22 гады. Павялічваецца і колькасць неданошаных дзетак. Толькі сёлета такіх нарадзілася 962, з іх 84 памерлі.

**Ядзвіга КОПАЦЬ**

## Лебядзіная драма

**Знакамітае Лебядзінае возера ў Гомелі нядаўна папоўнілася цэлай чарадой з 22 птушак.**

З нагоды 200-годдзя палацава-паркавага комплекса абласны камітэт па экалогіі знайшоў грошы, каб адлавіць рэдкіх птушак у Глыбоцкім раёне Віцебскай вобласці. Зроблена гэта вельмі своечасова, бо пасля таго, як год назад невядомыя зламыснікі забілі трох птушак, на возеры засталіся толькі два самцы і адна самка. Самцы ўвесь час біліся смяротным боем, бо ніяк не маглі падзяліць нявесту. Апошняя, аднак, зрабіла свой выбар і прывяла чатырох птушанят.

Адрынуты лебедзь літаральна звар'яцеў ад злосці, і яго давялося ізаляваць агароджай. Але і цяпер, мусіць, лебядзіная драма не скончыцца, бо птушак стала 29, а гэты лік надвое ніяк не дзеліцца.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Трыятлон па-мазырску

**Сярод мазырскіх студэнтак становіцца папулярным своеасаблівы трыятлон. У яго ўваходзяць: язда на аўтамабілі, бег з перашкодамі і баявое адзінаборства.**

Днямі мазыранка Г., спыніўшы іншамарку, папрасіла падвезці яе да чыгуначнага вакзала. Па дарозе кіроўца нечакана звярнуў за мост і спыніўся. Напалоханая дзяўчына выскачыла з машыны і кінулася наўцёкі. Вадзіцель пабег за ёю і з немалымі цяжкасцямі дагнаў. Але лепш бы ён гэтага не рабіў, бо студэнтка рашуча ўступіла ў адзінаборства з крыўдзіцелем і не проста перамагла, а літаральна збіла хлопца на горкі яблык.

Хто і ў чым вінаваты — цяпер разбіраецца міліцыя.

**Лявон ВАЛЕВАХА**

# Без Каспарава, але ўсё ж чэмпіянат свету

Барыса Гельфанда, 29-гадовага мінскага гросмайстра, добра ведаюць аматары шахматаў ва ўсім свеце. З 1990 года ён амаль нязменна ўваходзіць у лік 10 лепшых шахматыстаў планеты. На ягоным ліку перамогі ў найбуйнейшых міжнародных турнірах, з іх у двух міжзанальных. Яму ўдавалася перамагаць усіх мацнейшых шахматыстаў апошняга дзесяцігоддзя — акрамя Гары Каспарава. Пакуль што найвышэйшае дасягненне Гельфанда — выхад у паўфінал першынства свету *FIDE*, дзе ён саступіў з лікам 3:6 Анатолю Карпаву.

У эксклюзіўным інтэрв'ю карэспандэнту СВАБОДЫ Барыс Гельфанд каментуе новую сістэму розыгрышу першынства свету і пазіцыі выбітных шахматыстаў сучаснасці Анатоля Карпава і Гары Каспарава.

Гісторыя выяўлення чэмпіёнаў свету па шахматах бярэ пачатак у 1886 г., калі Вільгельм Стэйніц выйграў матч у Ёгана Цукерторта. Стройнай сістэмы вызначэння наймацнейшага шахматыста тады не было. Нехта з вядомых ігракоў кідаў выклік чэмпіёну, а той ужо вырашаў, з кім гуляць, з кім не гуляць. У 1922 г. кубінец Хасэ-Рауль Капабланка ўскладніў жыццё прэтэндэнтам на карону ўмоваю забяспечыць велізарны па тых часах прызавы фонд. Прайграўшы Аляксандру Алехіну ў 1927 г., ён сам стаў ахвярай сваёй прапановы. Алёхін памёр у 1946 г., і тады Міжнародная федэрацыя шахматаў (*FIDE*) узяла розыгрыш першынства свету пад свой кантроль. З 1948 г. існавала даволі стройная сістэма вызначэння чэмпіёна: нацыянальныя чэмпіянаты, занальныя турніры, міжзанальны, матчы прэтэндэнтаў і, нарэшце, матч за сусветную шахматную карону паміж пераможцам адборачнага цыклу (як правіла, трохгадовага) і чэмпіёнам свету. Так працягвалася 45 год, пакуль Гары Каспараў і Найджэл Шорт, незадаволеныя інертнасцю *FIDE*, не стварылі *PCA* (Прафесійную шахматную асацыяцыю). Такім чынам, свет атрымаў двух чэмпіёнаў: *PCA* — Каспарава і *FIDE* — Карпава. Рашэнне кангрэса *FIDE* аб аб'яднаўчым матчы яны не выканалі, і тады новы прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі Кірсан Ілюмжынаў прапанаваў новую сістэму розыгрышу. 100 наймацнейшых шахматыстаў у мікраматчах з дзвюх партыяў з выбываннем вызначаюць чэмпіёна свету. Пры ліку 1:1 гуляюцца партыі са скарочаным кантролем часу. Чэмпіянат забяспечаны прызавым фондам 5 мільёнаў долараў і пачнецца 8 снежня 1997 г. у Гронінгене (Галандыя). У лік ягоных удзельнікаў увайшлі і два беларускія гросмайстры — Барыс Гельфанд (паўфіналіст папярэдняга розыгрышу) і Аляксей Аляксандраў (па рэйтынгу).



**— Барыс, у гэтым годзе...**

— ... я згуляў ужо ў шасці турнірах, прычым чатыры з іх мелі амаль гранічную XIX катэгорыю складанасці. У Лінарэсе (Іспанія) ледзь не ўсе ўдзельнікі апынуліся не ў лепшай форме. І я не выключэнне. Была магчымасць зачапіць 3-е месца, але ў прыгожай, цікавай партыі, якая давала шанцы абодвум бакам, прайграў балгарыну Топалаву і адкаціўся ў сярэдзіну турнірнай табліцы.

Якасцю гульні ў Дос-Эрманасе я застаўся задаволены. Некалькі партыяў мог выйграць у адзін ход і падзяліць першынства. Аднак у выніку і тут фінішаваў у сярэдзіне. У Ноўгарадзе і Дортмундзе гуляў горш: маючы перавагу, часта не даводзіў справу да лагічнага завяршэння. Нягледзячы на тое, што ў Біле (Швейцарыя) і Паляніцы-Здруй (Польшча) удалося патрапіць у прызёры (3-е і 2-е месцы), і там я не рэалізаваў сваіх магчымасцяў. Справа даходзіла да камічных сітуацыяў: прапаноўваў праціўніку нічыю ў выйгранай пазіцыі. Над гэтым і трэба цяпер працаваць.

**— Вашыя калегі па шахматнай эліце, напэўна, таксама памыляюцца?**

— Канечне. Аднак тыя ж Ананд, Шыраў, Юдзіт Полгар у кожным турніры бяруць на ачко-паўтара больш, чым заслугоўваюць — за кошт больш лёгкага, так бы мовіць, стаўлення да гульні. Яны менш увагі ўдзяляюць назапашванню добрай пазіцыі, больш — рэалізацыі любой магчымасці, якая б ні патрапілася. Гэта — частка іхняга стылю гульні.

**— Можа быць, вам таксама варта змяніць свой стыль?**

— Гэта немагчыма. Да 15—20-гадовага ўзросту яго яшчэ можна скарэктаваць, а пазней — толькі зламаць. Таму я імкнуся ўдасканальваць моцныя бакі свайго стылю.

Перапады ў гульні характэрныя для большасці шахматыстаў, акрамя Каспарава, які бярэ ўдзел толькі ў 2—3 турнірах у год. Усё непрадказальнае: бывае — не рыхтуешся, але перамагаеш, і наадварот — шмат займаешся, накопліваецца стомленасць і гульня не ідзе. Іншым разам грунтоўная падрыхтоўка дае свой плён. Я хацеў быў праналізаваць прычыны — невытлумачальна!

**— Апошнім часам прыкметна ўпалі вынікі Анатоля Карпава. Можа быць, справа ў тым, што савецкая сістэма ў парадку загаду прымушала сушыць мазгі на карысць юнага вундэркінда такіх шахматных тытанаў, як Леў Палугаеўскі, Яфім Гелер, нават экс-чэмпіён свету Міхаіл Таль? Або тады проста не хапала выбітных шахматыстаў?**

— І тое, і іншае. Але старонняя дапамога больш за ўсё адчувальная ў дэбюце, а Карпаў на дэбют не ставіў ніколі. Нярэдка на пачатку партыі ён «даваў праціўніку фору», а пасля перамагаў за кошт фантастычных гульнёвых якасцяў. Як ігрок ён, можа быць, самы вялікі ў гісторыі шахматаў. Карпаў тонка адчувае псіхалогію партнёра, інтуітыўна прадбачыць непажаданыя для сябе варыянты і пераводзіць гульню ў нечаканае для канкурэнта рэчышча.

У 1994 г. ён выйграў супертурнір у Лінарэсе з рэкордным вынікам —11,5 з 13 ачкоў. Паспяховымі для Карпава былі 1995 і першая палова 1996 года. Але з таго часу ў яго гульня не ідзе. Цяжка ўзгадаць, калі чэмпіён *FIDE* апошні раз перамог шахматыстаў першай дзесяткі. Карпаў ужо даўно гуляе адныя і тыя ж варыянты. Людзі да іх прызвычаіліся, ведаюць ягоныя слабасці, якіх становіцца ўсё больш. А гнуткасцю ён цяпер не вызначаецца — з узростам людзі робяцца кансерватыўнымі.

**— Ці гулялі вы ў гэтым годзе з Карпавым?**

— Чатыры разы — і ўсе ўнічыю. Аднак усе партыі праходзілі з маёю перавагай.

**— А з Каспаравым?**

— У Лінарэсе мы заключылі мір, у Ноўгарадзе ён двойчы выйграў.

**— Можа быць, у вас сфарміраваўся комплекс Каспарава?**

— Не, проста калі я імкнуся да перамогі, то дзейнічаю залішне агрэсіўна, іду на адкрытую гульню, у якой Гары асабліва моцны. Аднак гуляць на нічыю — супраць маіх прынцыпаў.

**— Каспараў часта здзіўляе праціўнікаў хатнімі загатоўкамі...**

— У адрозненне ад Карпава Каспараў менавіта ў дэбюце закладвае фундамент будучай перамогі. Ягоная перавага на гэтай стадыі была настолькі вялікай, што ў выніку дазволіла яму стаць чэмпіёнам свету. Калі б не байцоўскія і ігравыя якасці Карпава, лік у іхніх матчах мог бы быць і разгромным.

Новае пакаленне шахматыстаў у гэтым плане падцягнулася да Каспарава. Перад Уладзімірам Крамнікам у Гары такой перавагі няма. Супраць чэмпіёна таксама навучыліся паспяхова гуляць Топалаў, Іванчук, і, як ні дзіўна, Лацье. Іванчук, напрыклад, імкнецца ўцягнуць Каспарава ў пазіцыі, якія той гуляе не лепшым чынам.

**— Так званы аб'яднаўчы матч паміж чэмпіёнам свету па версіі *FIDE* Карпавым і чэмпіёнам па версіі *PCA* Каспаравым ніяк не адбудзецца. Але калі б двое «К» і селі за столік, наўрад ці гэта выклікала б ранейшую цікавасць. Цяпер гэта быў бы паядынак першага шахматыста з чацвёртым—пятым...**

— Згодны. А пачалася гэтая гісторыя ў 1993 годзе, калі Каспараў і Шорт насуперак *FIDE* стварылі *PCA*. Карпаў, у той час звычайны шахматыст, на вачах змяніўся. Ён зразумеў, што можна стаць чэмпіёнам, не гуляючы з Каспаравым. І выйграў чэмпіянат *FIDE*. Яшчэ да таго, як гэта адбылося, Каспараў у канцы 1994 г. на кангрэсе *FIDE* працягнуў рашэнне аб аб'яднаўчым матчы. У адказ Карпаў развязаў інтрыгі: ён прапанаваў усім паўфіналістам *FIDE* падпісаць ліст з адмовай гуляць з Каспаравым. Салаў і Камскі падпісалі, а я не стаў гэтага рабіць.

У выніку ўсіх гэтых катаклізмаў на змену прэзідэнту *FIDE* Кампаманесу прыйшоў Ілюмжынаў. Сітуацыя змянілася. Карпаў ужо згадзіўся гуляць пры ўмове павелічэння прызавога фонду ў некалькі разоў. Але ўсё ўпіраецца ў асабістыя амбіцыі.

Каспараў, які парушыў сістэмы чэмпіянатаў свету *FIDE* і *PCA*, ужо 2 гады не гуляе матчаў. Каб зацвердзіць легітымнасць свайго тытула, ён цяпер падтрымлівае ідэю правядзення матч-турніру з удзелам Уладзіміра Крамніка, Весяліна Топалава і Вішванатана Ананда, а пераможца гэтага турніру павінен будзе сустракацца з самім Каспаравым. Амбіцыі іншых спартсменаў і спартыўны прынцып адбору пры гэтым ігнаруюцца. Але Крамнік — чалавек, у якога разуменне гонару вышэй за ўласныя інтарэсы. Такіх у гісторыі шахматаў адзінкі. Уладзімір лічыць, што кожны павінен мець шанц — і другі, і дваццаты, і соты, г.зн. павінна працаваць сістэма. Дарэчы, за адмову ўдзельнічаць у матч-турніры ён падвяргаецца нападкам з боку Каспарава і мэнэджэра Топалава — Данаілава.

**— Такім чынам, адзінай альтэрнатывай з'яўляецца рэвалюцыйная сістэма розыгрышу першынства свету, якую прапанаваў Кірсан Ілюмжынаў.**

— Зразумела, сістэма мікраматчаў з выбываннем («накаўт-сістэма») далёкая ад дасканаласці. Усё ж шахматы — гэта не тэніс. Але гэта адзіная магчымасць правесці справядлівы адбор: пэўныя шанцы ёсць у кожнага з ста ігракоў.

**— Аднак чэмпіён свету Каспараў адмовіўся ўдзельнічаць у гэтых спаборніцтвах.**

— Гэта чыста савецкі менталітэт: усё разбурыць і пры гэтым нічога не стварыць. А далей — хоць трава не расці! Прычым Каспараў сцвярджае, што ўсе арганізацыі, якія ён стварыў — Гросмайстарская асацыяцыя і Прафесійная шахматная асацыяцыя — разбураліся па віне гросмайстраў. Але ўсё значна прасцей: яны спынялі сваё існаванне пасля таго, як рабіліся непатрэбнымі для Гары.

**— Дарэчы, *FIDE*, каб заахвоціць Карпава і Каспарава, прапанавала ім уступіць у барацьбу адразу з паўфіналу.**

— А пасля адмовы Каспарава нарадзілася ідэя дапусціць Карпава нават у фінал. На справе гэта значыць, што другі фіналіст падыйдзе да рашаючага матча з 6 партыяў пасля трох тыдняў беспярэпыннай жорсткай барацьбы. Карпаў жа ў гэты час будзе спакойна аналізаваць ход паядынкаў. Можна з 80-працэнтнай верагоднасцю сцвярджаць, што ён і стане пераможцам. І тады зноў пачнецца мітусня з аб'яднаўчым матчам.

Каб прадухіліць такую несправядлівасць, 16 гросмайстраў, у тым ліку Крамнік, Ананд, Іванчук, Лацье, Свідлер, Рублеўскі, Барэеў, Аляксандраў, я і іншыя падпісалі ліст з патрабаваннем змяніць сітуацыю з Карпавым.

**— Але пры гэтай сістэме існуе верагоднасць перамогі шахматыста, скажам, другой—трэцяй дзесяткі.**

— Гэта малаверагодна, хаця, на жаль, і магчыма. «Накаўт-сістэма» змяншае шанцы моцных на карысць астатніх. Некалькі гадоў яна выкарыстоўвалася на турнірах у Цілбургу і Вейк-ан-Зее. Першы раз перамогу атрымаў «непасеяны» — англічанін Адамс, які ў фінале перамог мяне. Потым перамагалі Карпаў — Іванчука, Салаў — Барэева. З васьмі чвэрцьфіналістаў шэсць—сем звычайна — «пасеяныя» ігракі.

Спадзяюся, што кіраўніцтва *FIDE* разумее, што гэтая сістэма эксперыментальная.

**— А якую б вы прапанавалі сістэму і перыядычнасць розыгрышу?**

— Спачатку міжзанальны турнір з удзелам 70—80 шахматыстаў. На другім этапе 10—12 ягоных пераможцаў гуляюць у два кругі паміж сабою, а затым двое наймацнейшых разыгрываюць фінальны матч. Зрэшты, магчымыя і іншыя варыянты. Перыядычнасць — раз у год-паўтара.

**— Але любы чэмпіянат без удзелу Каспарава...**

— Сапраўды, пакуль гуляе Каспараў, званне чэмпіёна свету — чыста сімвалічнае. Але ён сам загнаў сябе ў гэтую сітуацыю. І потым, людзі растуць: Кожны дзень працуе супраць яго.

*Гутарыў*

**Барыс ТАСМАН**

© СВАБОДА Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by СВАБОДА ў Internet: http:\\www.gis.minsk.by Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад — 32.130
Нумар падпісаны ў друк 9.09.97 (15:00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 215 Заказ 352